# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№6(10)
ЧЭРВЕНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


■ *ДА 60-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ*

## МАНУМЕНТЫ, ПОМНІКІ, АБЕЛІСКІ...

**22 чэрвеня 1941 года фашысцкія захопнікі здзейснілі першую бамбардзіроўку Гродна. 23-га горад быў захоплены гітлераўцамі. Акупацыя цягнулася 1128 дзён. Знішчана 33 тысячы грамадзян. Па ацэнцы надзвычайнай камісіі агульныя страты Гродна склалі 2,8 млрд. рублёў (па цэнах 1941 г.) Горад разбураны на 43 працэнты. На дзень вызвалення насельніцтва складала менш паловы даваеннага – усяго каля 22-х тысяч чалавек.**

На Гродзеншчыне аб Вялікай Айчыннай вайне нагадваюць каля 700 манументаў, помнікаў і абеліскаў. Яны ўвекавечваюць памяць воінаў, партызан, падпольшчыкаў, ахвяраў нацызму, салдат-землякоў, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Ёсць 351 вайсковае пахаванне. У гэтай колькасці 10 ваенных могілак, 224 брацкіх і 117 індывідуальных магіл. Усяго пахавана 63346 воінаў. Імёны 9291 салдата ўстаноўлены. 54055 – застаюцца невядомымі.

Помнікі ахоўваюцца, пастаянна вядзецца іх добраўпарадкаванне. У 2000-м годзе ў гарадах і паселішчах вобласці адрамантаваны 63 помнікі, устаноўлены тры новыя.

У вышэйшых навучальных установах Гродна сталі традыцыйнымі студэнцкія канферэнцыі. Сёлета яны былі прымеркаваны да 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Не змяншаецца наша ўвага да дзейнасці амаль 100 музеяў, створаных у школах і ПТВ. З гэтай колькасці 17 – музеі баявой славы, 63 – гісторыка-краязнаўчыя. Лепшымі паводле абласнога агляду-конкурсу прызнаны народны музей імя А.С.Жукоўскага СШ № 3 г. Слоніма, музей СШ № 2 г. Ваўкавыска і Дзераўноўскай СШ Слонімскага раёна. Добрае ўражанне пакідаюць афармленне і работа музеяў імя Д.М.Карбышава СШ № 15 г. Гродна і дзяржаўнага медыцынскага універсітэта.




Мастак В. Карэцкі. 1942 г.

Актыўна праявілі сябе ў справе аховы помнікаў гісторыі і культуры такія энтузіясты, як С.А.Пархута, А.М.Іванашка, Я.М.Жабрун, В.Я.Мацко, І.П.Крэнь, В.П.Чарапіца, С.В.Марозава, С.Я.Куль-Сільвестрава, У.П. Верхась, І.А.Басюк, І.Э.Мартыненка, У.Н.Кіслы, Ч.В.Рой, А.П.Госцеў, А.С. Палубінскі, П.П.Талкачоў, А.М.Тарсуноў і многія іншыя. Іх аб'ядноўвае павага да нашай культурнай і гістарычнай спадчыны.

**Дзмітрый Аляшкевіч,**
**нам. старшыні прэзідыума абласнога савета грамадскага аб'яднання "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры".**

(Працяг тэмы на 4-й – 6-й стар.)

■ *ШКОЛЬНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА*

## УСЁ БЫЛО, ЯК МАЕ БЫЦЬ

4 мая адбыліся пятыя абласныя гульні краязнаўцаў. Спаборніцтвы праходзілі пад дэвізам "Я гэтым горадам апекаваны!". Арганізатары — абласны Дом творчасці дзяцей і моладзі – стварылі выдатныя ўмовы для ўдзельнікаў гульняў. Асабліва старанна папрацаваліся старшы метадыст Таццяна Еўдакімава, а таксама Таццяна Аўдзейчык.

Калі ў 1997 годзе старт бралі дзевяць каманд, то зараз іх колькасць склала 19, у тым ліку каманды з Ліды і паселішча Навасёлкі Гродзенскага раёна. БСМ быў прадстаўлены моладдзю з СШ № 28 (капітан каманды Сяргей Ткачоў). Каманда – гэта пяць гульцоў і кіраўнік з ліку настаўнікаў.

У выніку першай была каманда з Ліды (капітан Наталля Бранкоўская, кіраўнік Аляўціна Хамякова). Другое месца занялі школьнікі з СШ № 10 г.Гродна (Вольга Скубацова, Алёна Азарава). На трэцім месцы ўмацавалася лепшы экскурсавод Вольга Пасеева (кіраўнік Таццяна Аўдзейчык).

Лепшымі сярод капітанаў былі прызнаны Аляксандр Швед (10 клас, гімназія, Гродна), Андрэй Баранаў (СШ № 12, Гродна), Таццяна Казак (каманда "Віўласы", ліцэй №1, Гродна). Спецыяльныя ўзнагароды атрымалі кіраўнікі каманд Віталь Карнялюк і Алесь Госцеў за валанцёрскую працу па ачыстцы ракі Гараднічанка ў Гродне.

Завяршыліся краязнаўчыя гульні-2001 развітальным вогнішчам.

**Алесь Быліцкі**

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# СТАНЕ СЛОНІМ ГОРАДАМ-МУЗЕЕМ...

*Слонімскаму краязнаўчаму музею 72 гады. Яго заснавальнікам быў вядомы гісторык і археолаг Іосіф Стаброўскі. Цяпер вядзецца работа па наданню музею яго імя. На доме, у якім жыў вучоны, неўзабаве з'явіцца мемарыяльная шыльда. Дырэктар музея Ірына ШПЫРКОВА распавядае:*

— Маем 21 тысячу экспанатаў. Не хапае плошчаў для іх размяшчэння. Рашэнне гарвыканкама аб перадачы нам будынку натарыяльнай канторы на вуліцы Васі Крайняга пад фондавыя памяшканні, праблему рашае толькі часткова.

Аддзел прыроды расказвае аб насельніках ледніковай фауны краю, яго ландшафце, сучасным жывёльным і раслінным свеце, карысных выкапнях. Аддзел старажытнасці ўтрымлівае звесткі ад першабытнага чалавека і да часоў Першай Сусветнай вайны. Заслугоўваюць увагі экспанаты, звязаныя з жыццём Льва Сапегі, Міхала Агінскага, Тадэвуша Касцюшкі. Ёсць пакоі, дзе адлюстраваны побыт сялян, падзеі 1920 — 1939 гадоў, калі горад быў у складзе тагачаснай Польшчы, сучаснае жыццё Слоніма. Раз у квартал ладзім выстаўкі. Цяпер знаёмім наведвальнікаў з гісторыяй нашых прадпрыемстваў.

**— Кожны музей мае самыя каштоўныя экспанаты, якія не сорамна паказаць людзям...**

— Маем выяву паганскага балвахвальніка 10-га стагоддзя, які быў знойдзены каля Слоніма ў 1937 годзе. Бронзавы бюст Банапарта зрабіў парыжскі скульптар Каломб у 1885 годзе. Такіх бюстаў ёсць толькі два. Адзін прывёз у Слонім Іосіф Стаброўскі. Экспануем перакладзены ў 17-м стагоддзі са старабеларускай на польскую мову Статут Літоўскі 1588 года. Адным з рэдактараў быў вядомы дзяржаўны дзеяч ВКЛ і Слонімскі староста з 1586 года Леў Сапега. Унікальнымі можна назваць польска-літоўскія манеты 12-га — 18-га стагоддзяў, план паселішча Слоніма 1825 года, амуніцыю нямецкіх рыцараў з Грунвальдскай бітвы 1410 года, польскую і шведскую — 1700- 1721 гадоў, частку драўлянага слонімскага водаправода 18-га стагоддзя...

***СКАРБЫ ГРОДЗЕНСКАЙ ЗЯМЛІ***



**Сінагога ў Слоніме пабудавана ў 1642 г. у стылю барока, адзіны захаваны на Беларусі здабытак яўрэйскай культуры таго часу. Пасля вайны доўгі час выкарыстоўваецца як гаспадарчае памяшканне.**

Цяпер таксама купляем цікавыя рэчы. Летась займелі самавары, патэфоны, фотаздымкі, парцэляновыя велікодныя яйкі, срэбныя манеты канца 19-га стагоддзя, розныя дакументы, звязаныя з вайсковай службай. Былі б грошы, а набыць можна шмат чаго...

**— Многа ўнікальных экспанатаў зніклі ў часе вайны, пасляваенны перыяд. Вы ведаеце, дзе яны знаходзяцца? Ці ставілася пытанне аб вяртанні ўласнага ў Слонім?**

— Ведаем, што карціна Верашчагіна "Абаронцы Святой Троіцка-Сергіевай Лаўры" знаходзіцца ў Гродне. Але дакумента, што гэта наш экспанат, няма. Маем звесткі, што карціну нібыта ўзялі на рэстаўрацыю. Захоўваем спіс экспанатаў, якія прапалі ў часе вайны, складзены Стаброўскім, Новікам-Пяюном і іншымі былымі работнікамі музея. Аб вяртанні размова не вялася. Гэта павінны рабіць на больш высокім узроўні. Зніклі дзесяткі каштоўных і непаўторных рэчаў...

Сябруем з супрацоўнікамі варшаўскага музея Войска Польскага. Там захоўваецца сцяг Слонімскага павету 17-га стагоддзя. Хочам набыць калі не сам штандар, то хаця б зрабіць яго добрую копію.

**— Музей заўсёды мае планы на будучыню. Што хацелася б зрабіць у бліжэйшым часе?**

— Правесці раскопкі на старым слонімскім замчышчы. Там можна пабачыць Слонім не горш, чым старажытны Брэст. Музей СШ № 4 "перарос" уласна школьны і яго трэба зрабіць нашым філіялам. Усе экспанаты, звязаныя з Вялікай Айчыннай вайной, перанесці туды. У нас жа шырэй паказаць перыяд сярэднявечча, жыццё і дзейнасць Сапегаў і Агінскіх. Наогул, Слонім можна зрабіць горадам-музеем, прывабным для турыстаў. Побач знаходзяцца знакамітая Сынковіцкая царква 15-га стагоддзя, Жыровічы, Альбярцін з маёнткам Пуслоўскіх. Пакуль што застаецца нявырашанай праблема перайменя вуліцы Камсамольскай у вуліцу Іосіфа Стаброўскага. Там захаваўся яго дом.

**— У Слоніме нямала школьных музеяў. Работа з імі з'яўляецца адным з кірункаў вашай працы...**

— Мы дапамагаем музеям СШ № 4,2,10,5,1, Дзераўноўскай школы. Мы прагледзелі іх фонды, склалі ахоўныя абавязкі, узялі на дзяржаўны ўлік найбольш каштоўныя экспанаты. Тэрмінова трэба аднаўляць музей Валянціна Таўлая ў СШ № 1. Музею Дзераўноўскай школы неабходна надаць званне народнага. Дапамагаем літаратурай, ксеракопіямі матэрыялаў і фотаздымкаў. Тым больш, што ў 2002 годзе Слонім будзе адзначаць сваё 750-годдзе. Наш горад вельмі старажытны, з багатай гісторыяй, якую трэба шырока прапагандаваць сярод насельніцтва.

**Інтэрв'ю правёў**
**Сяргей Чыгрын**

ДА 160-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ



# ЭЛІЗА АЖЭШКА ЗАПРАШАЕ Ў ГОСЦІ

У доме-музеі вядомай пісьменніцы Элізы Ажэшкі адкрыты мемарыяльны пакой. Так грамадскасць Гродна адгукнулася на 160-я ўгодкі з дня нараджэння сваёй землячкі.

Удзел ва ўрачыстасці прынялі кіраўнік упраўлення культуры аблвыканкама, старшыня гарвыканкама, прадстаўнікі Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне, актывісты грамадскага аб'яднання "Саюза палякаў на Беларусі", супрацоўнікі абласной бібліятэкі і дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, госці з Польшчы, у прыватнасці, з арганізацыі "Таварыства прыхільнікаў зямлі Гродзенскай і Віленскай".

Афармленне пакоя максімальна перадае атмасферу канца 19-га – пачатку 20-га стагоддзяў, калі тут жыла і працавала Эліза Ажэшка. Падабраны ідэнтычная мэбля, тагачасныя газеты, у якіх друкаваліся творы пісьменніцы, удалыя копіі карцін. Тут былі напісаны кніга апавяданняў "Меланхолікі", аповесці "Аўстраліец" і "Ad astra", раман "Арганаўты", зборнік навел "Gloria victis". Сюды часцяком завітвалі Ф.Багушэвіч, Я.Карловіч, М.Канапніцкая, В.Рэймант.

У часе Вялікай Айчыннай вайны экспанаты дома-музея былі расцягнуты фашыстамі: частка архіва Ажэшкі, бібліятэка, сабраны і аформлены пісьменніцай гербарый, яе ўласныя рэчы і мэбля. Цяпер у доме-музеі месціцца юнацкі філіял абласной бібліятэкі імя Я.Карскага.



**На здымках: адкрыццё помніка Элізе Ажэшцы ў Гродне ў 1929 г.; Ірэна Эйсмант распавядае першым наведвальнікам мемарыяльнага пакоя пра жыццё і творчасць пісьменніцы.**

**Антон Лабовіч**

# ПАЛЕСКІ СЛЕД ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года наша зямлячка Эліза Ажэшка (6.06.1841 – 18.05.1910) жыла на Палессі, мела цесныя стасункі з атрадам інсургентаў пад кіраўніцтвам Рамуальда Траўгута.

Першыя пяць гадоў шлюбу з Пятром Ажэшкам будучай пісьменніцы Элізы Ажэшкі (Паўлоўскай), адзін з літаратурных герoeў якой – бедны беларускі люд, прайшлі на Палессі, у сядзібе Людвінава каля Драгічына. Тут яе заспелі бурлівыя падзеі 1863 года – буйнейшы ў 19-стагоддзі нацыянальна-вызваленчы рух у польскіх і беларускіх правінцыях Расійскай імперыі. Узначальвалі паўстанне Кастусь Каліноўскі, Валерый Урублеўскі,Станіслаў Ляскоўскі, Антон Трусаў, Людвік Нарбут.

На Палессі доўга не маглі знайсці вопытнага вайскоўца, здольнага ачоліць адзін з атрадаў. Ім стаў падпалкоўнік рускай арміі ў адстаўцы інжынер Рамуальд Траўгут (1826 – 1864), ураджэнец Брэстчыны. Яго атраду дапамагаў малодшы брат мужа Элізы – Фларыян, які сур'ёзна паўплываў на светапогляд пісьменніцы. Уладальнікі суседніх маёнткаў збіралі правіянт і медыкаменты. Напрыклад, у сядзібе Божыдар у маі 1863 года Эліза Ажэшка з сяброўкамі арганізавала шпіталь для параненых паўстанцаў. Лепшымі сябрамі Рамуальда Траўгута і Ажэшкі тады былі Ян і Стэфанія Жукі, Фелікс і Тося Віславухі. Многія са знаёмых будучай пісьменніцы па сваёй волі паехалі за мужамі ў Сібір.



У сярэдзіне мая атрад Траўгута пачаў баявыя дзеянні. Некалькі спробаў адбіць рускія войскі былі паспяховымі. Але кампанія завяршылася поўным разгромам паўстанцаў. Траўгут, якога праводзіла Ажэшка, таемна выязджае ў Варшаву.

Для Элізы Ажэшкі тое, што здарылася, стала яшчэ і крахам сямейнага жыцця. Яна пакідае Палессе, вяртаецца ў бацькоўскі маёнтак на Гродзеншчыне. Але яе ніколі не пакінуць успаміны аб 1863 годзе. "Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншым…", — напіша яна пазней.

**Аляксей Дуброўскі, Вячаслаў Ільянкоў.**

**На здымку: адноўлены помнік Рамуальду Траўгуту ў г.п.Свіслач Гродзенскай вобл.**

■ ДА 60-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

# ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ СВЕДЧАННЕ ЗЛАЧЫНСТВАЎ




Некалькі гадоў таму Заходне-Беларускі гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, Гродзенская краязнаўчая асацыяцыя і абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша" запланавалі правесці ў Гродне выстаўку "Нямецкая прапаганда на Беларусі 1941 – 1944. Канфрантацыя паміж прапагандай і рэчаіснасцю". Выстаўка карысталася вялікай увагай у Берліне і Мінску? На жаль, у яна не адбылася.

Меркавалася, што кожны наведвальнік выстаўкі атрымае брашуру з фотаздымкамі, плакатамі і дакументамі, падабранымі ў Беларускім дзяржаўным кінафотаархіве і Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Выданне пабудавана на супрацьтэзе паказу інфармацыйных фальшывак фашысцкіх ідэолагаў і жудаснай праўды.

Шматлікія прапагандысцкія плакаты паказваюць "вольнае і шчаслівае" жыццё беларусаў пад нямецкай акупацыяй, удзел заняволеных людзей у дэманстрацыях, сельгасработах пад наглядам акупантаў. І тут жа жахлівыя сведчанні расправы над мірнымі людзьмі – масавыя расстрэлы, зруйнаваныя гарады і вёскі, гвалтоўны вываз моладзі на рабскую працу ў Германію, дзеці за колкім дротам, рабаўніцтва насельніцтва. Ёсць фотасведчанні змагання з фашыстамі партызан, гераічных баявых дзеянняў Савецкай Арміі.

Дакументы вышэйшага гітлераўскага кіраўніцтва яскрава паказваюць планы фашыстаў – знішчаць як мага больш савецкіх людзей. Тут загады аб карных экспедыцыях, стварэнні яўрэйскіх гета, даклады аб выніках "спецыяльных" акцый, аб смяротным пакаранні ўсіх, хто не падпарадкоўваецца фашыстам...

Кніга ўтрымлівае шмат лічбаў і фактаў. Выданне Ёханеса Шлётца – добры дапаможнік краязнаўцам.

**Сцяпан Ярашчук**

# Д-Р ШЛЁТЦ — ПРЫХІЛЬНІК СУПРАЦОЎНІЦТВА

Гэтаму няўрымсліваму чалавеку споўнілася 60 гадоў. Гісторык і палітолаг, дацэнт факультэта палітычных навук Вольнага універсітэта Берліна, ён адкрыў для сябе Беларусь праз Чарнобыльскую катастрофу, прычыніўся разам з калегамі да ўважлівага аналізу яе наступстваў. Вынікам стала кніга "Мы ўсе пазбеглі гэтага? Чарнобыль -- чатыры гады пасля".

Ёханес Шлётц меў немалы вопыт палітычнай працы, быў у Баварыі адным з лідэраў партыі лібералаў. Гэта паспрыяла арганізацыйнай дзейнасці і стварэнню аб'яднання "Кантакты. За супрацоўніцтва з краінамі былога Савецкага Саюза".

Упершыню прыехаў у Беларусь у 1992 годзе. З гэтага часу прыкіпеў да нашай краіны, як кажуць, душой. Беларускія праблемы сталі мэтай яго навуковых даследаванняў і грамадскай дзейнасці. Супрацоўніцтва з факультэтамі журналістыкі і паліталогіі БДУ, шырокі абмен маладзёвымі групамі пры падтрымцы Фонду стыпендый імя Ільзэ і Фрыдрыха-Карла Бюзінг, падтрымка ініцыятываў беларускіх навукоўцаў у Германіі, вялікія архіўныя доследы – гэта далёка не поўны пералік кірункаў працы д-ра Ё.Шлётца. Не выклікае сумнення, што за адносна кароткі час ён стаў адным з буйнейшых спецыялістаў у галіне беларускага архівазнаўства і паліталогіі.

Архіўныя матэрыялы, "здабытыя" у Беларусі і Германіі, падказалі ідэю арганізацыі выстаўкі "Нямецкая прапаганда на Беларусі ў 1941-1944 г.". Задума адпавядала кірунку працы д-ра Шлётца – злоўжыванне прапагандай у палітычных мэтах.



д-р Ёханес Шлётц

Выстаўка карысталася вялікім поспехам у Берліне і Мінску. На жаль, далейшы паказ экспазіцыі ў абласных цэнтрах, у прыватнасці, у Гродне, не быў дазволены па хадайніцтву аб-'яднання беларускіх ветэранаў. Выстаўку пабачылі таксама жыхары Масквы і Санкт-Пецярбурга. Д-р Шлётц атрымаў дзяржаўную ўзнагароду Расіі за ўклад у развіццё навукі і культуры паміж РФ і Германіяй.

Новым этапам дзейнасці нямецкага вучонага, дарэчы, абранага акадэмікам Міжнароднай АН Еўразіі, стала заснаванне ў 1997 годзе цэнтра беларуска-нямецкіх ініцыятываў (Arbeitskreis Belarusisch-Deutsche Begegnungen), дзякуючы якому пашырыліся магчымасці разнастайнай працы беларускіх студэнтаў і маладых навукоўцаў у Германіі. Ужо сотні маладых людзей з Беларусі скарысталіся дапамогай і падтрымкай добразычлівага дацэнта з Берлінскага універсітэта.

У апошнія гады некалькі дзесяткаў беларускіх студэнтаў далучыліся да работы працоўных лагераў нямецкага Народнага Таварыства захавання помнікаў вайны. На гэту справу з удзелам моладзі розных краін, д-р Шлётц звяртае асаблівую ўвагу. Тым самым моладзь розных нацый атрымлівае ўнікальныя ўрокі гісторыі і рыхтуе глебу для ўзаемаразумення і развіцця кантактаў у будучым.

Ёханес Шлётц добра разумее ідэалагічныя і гістарычныя бар'еры, якія падзяляюць нашы народы. Але гэта яго не спыняе. У адным з інтэрв'ю газеце "Звязда" (28.04.1994) д-р Шлётц нагадаў: "Калегі часам жартуюць – едзь у Італію, і ніякіх праблемаў! А я зноў кіруюся ў Беларусь. Краіна пакуль што недастаткова вядомая для мяне, але ў яе багатая гісторыя і культура, мноства цудоўных людзей…".

Дзякуючы намаганням такіх асобаў, як нямецкі вучоны Ё.Шлётц, бар'еры недаверу паступова рушацца і для беларускай грамадскасці ствараюцца новыя магчымасці развіцця кантактаў у навуковай, эканамічнай і культурнай дзейнасці з дэмакратычнай Германіяй і Еўрапейскім Саюзам. Нам працягнута рука ўзаемаразумення. Ці скарыстаемся мы гэтым шанцам?

**А.Дзіснёнак**

# ЦІ НАСТУПІЦЬ ЧАС ПРЫМІРЭННЯ?

Другая Сусветная вайна забрала жыццё кожнага трэцяга грамадзяніна Беларусі. Краіна стала магілкамі прыкладна для 1 млн. 200 тысяч чырвонаармейцаў (толькі ўлічаных), 1 млн. 400 тысяч мірных грамадзянаў, сотняў тысяч вайскоўцаў вермахта. Кожны год прыносіць новыя страшныя знаходкі – пахаванні былых салдат. Вядома, што вайна не скончана да таго часу, пакуль не будзе пахаваны яе апошні змагар, які загінуў у тым полымі.

Але ці наблізіліся мы да гэтага даўно чаканага моманту? Як нам ставіцца да тых, хто прышоў у чэрвені 1941 года на нашу зямлю як агрэсар і скончыў свой жыццёвы шлях у бітве з савецкімі абаронцамі Радзімы? Толькі ў бабруйскім і мінскім "катлах" у 1944 годзе загінулі 130 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў. Не ўсе яны добраахвотна ўзялі ў рукі зброю і далёка не кожны быў фашыстам.

Мы будуем новую дэмакратычную Беларусь, інтэграваную ў еўрапейскую супольнасць. Многія нашы ветэраны і моладзь не заўсёды спрыяюць усталяванню ўзаемапаразумення паміж былымі непрымірымымі непрыяцелямі. У самой Германіі шмат зроблена, каб фашысцкая ідэалогія была знішчана назаўсёды. Народны Саюз ФРГ добраўпарадкуе і даглядае за вайсковымі пахаваннямі, магілкамі вязняў гітлераўскіх канцлагераў. Там пануе пастулат: "Загінуўшы на полі боя, альбо сканаўшы ад ран варожы салдат, мае права на магілу".

Наша грамадства яшчэ далёка ад разумення гэтай простай ісціны, хаця ў 1949 годзе БССР далучылася да Жэнеўскай канвенцыі, згодна якой на тэрыторыі рэспублікі павінны захоўвацца нямецкія магілы і пахаванні. Справа не толькі ў хрысціянскіх традыцыях, да якіх мы паступова вяртаемся. Уладзімір Шакуцік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, разважае так: "Дзесяткі тысяч крыжоў над варожымі магіламі будуць выклікаць разуменне подзьвігу, што здзейснілі абаронцы Айчыны, а крэўныя прыхадняў, якія загінулі, перададуць нашчадкам, чым заканчваюцца паходы на чужыя землі".

Нямецкі народ сёння працягвае нам руку прымірэння. Нямала гуманітарнай дапамогі ідзе ў Беларусь, шматлікія беларуска-нямецкія праекты фінансуюцца нямецкім бокам. Вялікая дапамога аказваецца ахвярам фашызму, якія жывуць у нашай краіне. Нядаўна прыняты закон ФРГ аб выплатах кампенсацый былым остарбайтэрам (ад 5 да 15 тысяч нямецкіх марак). У час вайны тысячы беларускіх хлопцаў і дзяўчат былі гвалтоўна вывезены ў Германію. Дарэчы, тэрмін падачы адпаведных заяў заканчваецца 11 жніўня (Беларускі рэспубліканскі Фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне". 230013, г. Мінск, вул. Я.Коласа, 39а. Тэл. 232-70-96). Але і наша грамадства павінна паступова рабіць крокі насустрач шчырай руцэ. Далёка не ўсе нашы грамадзяне падтрымліваюць ратыфікацыю міждзяржаўнага пагаднення ФРГ і Беларусі па нагляду за вайсковымі пахаваннямі.

Шлях да прымірэння – гэта яшчэ і адпаведны грамадскі настрой і рух на Беларусі, у баку ад якога не могуць заставацца краязнаўцы. Менавіта руплівцам на ніве мясцовай гісторыі вядомы мясціны пахавання савецкіх салдат і партызан, польскіх патрыётаў АК, нямецкіх салдат 1-й і 2-й Сусветных войнаў. Неабходна гэтыя месцы лакалізаваць, браць на ўлік, паведамляць у азначаны Фонд, Таварыствы па ахове помнікаў гісторыі і культуры, у СМІ, у тым ліку бюлетэнь "Краязнаўчая газета". Будзем таксама шукаць прыхільнікаў справы прымірэння сярод нашых ветэранаў, якія выдатна разумеюць, што "загінуўшым можна толькі дараваць".

**Мацей Глазка**

# АДЫСЕЯ ПАЛКОЎНІКА ТУМАСА




У брашуры Юозаса Тумаса "Дарога ў Чэрвень" раскрываецца яшчэ адна старонка трагічнага лёсу чатырох тысяч беларусаў, літоўцаў, палякаў, рускіх, якіх 26-27 чэрвеня 1941 года НКВДоўцы пачалі расстрэльваць у Чэрвеньскім лесе.

Высілкамі Міністэрства культуры Літвы цяпер на месцы злачынства ўстаноўлены помнік. Беларускія патрыёты паставілі крыж. Тут штогод збіраюцца нашчадкі рэпрэсаваных, каб успомніць светлыя імёны тых, хто загінуў у жудасныя першыя дні вайны

Палкоўнік Літоўскай арміі Юозас Тумас быў арыштаваны органамі НКВД. Але Каўнаская турма падверглася бамбардзіроўцы. Зняволеных хутка перапраўілі ў Мінск. Літоўскіх афіцэраў было шмат. Яны трымаліся адзін аднаго. 25 чэрвеня калону пагналі ў кірунку Чэрвеня. Хворых і тых, хто не мог ісці, ахоўнікі прыстрэльвалі на месцы. Адна жанчына-беларуска з дзіцём вельмі стамілася. Малога вырвалі з рук і забілі. Застрэлілі і маці. Забілі капітана польскай арміі, які быў зняволены вясной 1940 года.

За Чэрвенем у лесе пачалося масавае забойства людзей. Юозас Тумас вырашыў уцячы якраз у той час, калі групамі ўжо вадзілі на расстрэл. Яму гэта ўдалося. Пасля было вяртанне ў Літву.

**Сцяпан Ярашчук**

(Заканчэнне на 6-й стар.)

# ФРАУ БЮЗІНГ, СТВАРАЮЧАЯ БУДУЧЫНЮ


Ільзэ Бюзінг

Сотні маладых людзей з Беларусі скарысталіся дапамогай Фонду прыватных стыпендый Ilse und Friedrich-Karl Busing Stipendium, маючы запрашэнні ў Германію на моўную практыку, навуковыя канферэнцыі і семінары, працу ў архівах, фінансавых і дзяржаўных установах і г.д. Далёка не ўсе стыпендыяты ведаюць, што гэты Фонд заснаваны ў памяць эканаміста Фрыдрыха-Карла Бюзінга, які знік без звестак 3-га ліпеня 1944 года ў Мінску, дзе ён знаходзіўся ў кароткатэрміновай камандзіроўцы.

Фонд пачаў дзейнасць у 1996 годзе, калі ўдава фрау Ільзэ Бюзінг ахвяравала свае зберажэнні на справу прымірэння паміж Беларуссю і Германіей, пашырэння сувязей паміж нашымі краінамі.

Заснавальніца Фонду Ільзэ Бюзінг з сям'і Бюкендорф нарадзілася 4 ліпеня 1915 года ў Гестэмюндэ каля Брэлархавена. Вывучала гісторыю старажытнасці. У 1936 годзе выйшла замуж за Фрыдрыха-Карла Бюзінга і пераехала ў Гамбург. Маладая нямецкая сям'я ў хуткім часе адчула на сваім лёсе, што такое фашызм. Фрау Ільзэ пад прымусам працавала на фабрыцы боепрыпасаў. Разуменне трагедыі, у якой апынуўся нямецкі народ, пачалося разам з налётамі саюзнай авіяцыі з сярэдзіны 1942 года, а таксама пасля размоў з остарбайтэрамі – маладымі жанчынамі, вывезенымі з Польшчы, Беларусі і іншых дзяржаваў. 24 ліпеня 1943 года года страціла сваю кватэру. Як бежанка была эвакуіравана ў Мекленбург. Тут атрымала жорсткую вестку, што ў Мінску прапаў без вестак яе муж.

Цяжкія пасляваенныя гады фрау Ільзэ перанесла мужна, цяжка працуючы і з надзеяй на лепшую будучыню. Ёй уласцівы аптымізм і прыродная добразычлівасць, адказнасць за лёс сям'і і разуменне віны свайго пакалення за распалены гітлераўцамі сусветны пажар.

У 1991 годзе пачаліся шматлікія кантакты былых супрацiўнікаў. У гэтым жа годзе адбылася сустрэча фрау Ільзэ Бюзінг і Ханны Краснапёркі ў Мінску, перажыўшай фашысцкае гета. Жанчыны адчулі неабходнасць духоўнага прымірэння і патрэбу сказаць аб гэтым іншым грамадзянам Германіі і Беларусі.

Калі ў 1992-1993 г. пачалося будаўніцтва грамадскага цэнтра нямецка-беларускіх ініцыятываў (IBB) у Мінску, сярод многіх нямецкіх ахвярадаўцаў была фрау І.Бюзінг. З 1994 года яна падтрымлівае розныя беларуска-нямецкія праекты, якія ініцыяваліся Вольным універсітэтам Берліна (FU Berlin), і асабліва забяспечвала каштарысы падарожжа моладзі Беларусі на моўную практыку ў Германію. Але галоўнай справай жыцця Ільзэ Бюзінг стала заснаванне Фонду стыпендый. Толькі ў першы год іх атрымалі больш як 50 маладых людзей з Беларусі.

Выконваючы дырэктар Бюзінг-Фонду д-р Ёханэс Шлётц паруліўся, каб дапамогу Фонду атрымалі будучыя медыкі, аграрыі, гісторыкі, перакладчыкі, журналісты, настаўнікі, нават фінансісты. Геаграфія стыпендыятаў шырокая – Мінск, Віцебск, Магілёў, Брэст, Гродна, Навагрудак і інш.

Падтрымку Фонду Бюзінг адчулі таксама студэнты і маладыя навукоўцы Інстытута біяхіміі НАН Беларусі ў Гродне, Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, музейныя работнікі вобласці, краязнаўцы, студэнты і выкладчыкі Гродзенскага аграрнага ўніверсітэта.

Фрау Ільзэ Бюзінг, як іншыя грамадзяне Германіі, працягвае нам руку прымірэння і сяброўства і наш абавязак зразумець, што гэта робіцца ад шчырага сэрца. Пажадаем гэтай жанчыне поспеху ў яе высакароднай справе.

**Андрэй Майсяёнак,**
**прадстаўнік Фонду Ільзэ — Фрыдрых-Карл Бюзінг у заходнебеларускім рэгіёне, прафесар.**

# ТАКОЙ БЫЛА ВАЙНА

Аб кнізе "Навагрудскі "кацёл" ўжо сказана шмат удзячных слоў. Аўтар Іван Басюк у прадмове сведчыць, што адзін з першых буйнамаштабных "катлоў" у часе Вялікай Айчыннай вайны быў утвораны нямецкімі захопнікамі летам 1941 года. 11 савецкіх дывізій Заходняга фронту супрацьстаялі 25 дывізіям групы армій "Цэнтр" у Налібоцкай пушчы.

Каштоўнасць выдання не толькі ў тым, што ўпершыню зроблена спроба глыбокага даследавання "белай плямы". Гісторык аналізуе публікацыі на гэтую тэму. Пра Навагрудскі "кацёл" пісалі начальнік Генеральнага штаба сухапутных войск гітлераўскай Германіі Ф.Гальдэр, савецкія ваенныя гісторыкі і генералы В.Анфілаў, А.Яроменка, К.Галіцкі, Н.Андрушчанка, Л.Сандалаў, Г.Жукаў. Праблема ўздымалася ў шматлікіх газетных публікацыях.

І тым не менш, гродзенскі даследчык тактоўна, са спачуваннем да памяці савецкіх салдат, якія загінулі, гаворыць пра падзеі чэрвеня-ліпеня 1941 года, якія разгортваліся на Навагрудчыне. Даследуюцца карані трагедыі Заходняга фронту, прасочваюцца першыя дні вайны, трагедыя генерала Паўлава, мужнасць байцоў, падаецца сумная статыстыка людскіх і тэхнічных страт. Разам з тым воіны-акружэнцы ў тыле ворага стваралі партызанскія атрады, разгортвалі рух супраціўлення.




Іван Басюк напісаў сур'ёзнае даследаванне, адрасаванае навукоўцам, краязнаўцам, студэнтам, ветэранам, вайскоўцам. Гэта фундаментальная праца, якая аднаўляе падзеі першых месяцаў Вялікай Айчыннай вайны на Гродзеншчыне.

**Антон Лабовіч**

■ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

# ПРА ДАЎНЕЙШУЮ ВЁСКУ РАМАШКАВА...

Дакумент "Опись имения... Ошмянского повета, составленная при продаже его Ярошем... Веселовскаму" складзены ў 1589 годзе. Напісаны ён на старабеларускай мове, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім.

Вось тагачаснае гучанне дакумента: *"Реестръ списанья именья земенина господарского повету Ошменского Яроша... отчизное и матки его Ганны Селивестровны, прозываемого... у селе Ромашковъ, в повете Ошменскомъ лежачего, через мене возного* **(судовы чын – М.П. Тут далей заўвагі аўтара)** *повету Ошменского Миколая Ромашка и при стороне двухъ шляхтичовъ Миколаю Кодю и Петру Мишковичу, которые именейцо тотъ Ярошъ и тая Ганна продали и на вечность спустили земенину... Веселовскому и малжонце его Альжбете, детемъ и потомкамъ ихъ милости и тую продажу свою... въ моцъ и въ держанье и уживанье со всеми пожитками* ***(даходамі),*** *широкостями тое именейцо, яко зъ будованьемъ дворнымъ и зо всякими кгрунтами... черезъ мене подали листъ* ***(грамату)*** *свой... въ року теперешнемъ отъ нароженья Сына Божего тысяча пятьсот осмьдесят девятомъ месяца Апреля.*

*Напервей меновите будованье: гридна съ примном* ***(пакой з прыбудовай, сенямі)*** *клети две, лазня съ примномъ, гумно рубленое, хлевъ рубленый; сепичо, огородъ овошчовый, навозы противъ дому... бочок на чотыри севбы житное въ границахъ и межахъ, лежитъ бокомъ одним при ниве Щепановской, а другимъ бокомъ при дорозе изъ села Ромашковъ до сеножатей под Клевицы, концомъ однимъ до дороги изъ села Наркевичовъ до Кгравжишокъ логомъ за горою. А на другомъ месцы нивка... на полъ бочки. А на третьемъ месцы нива, прозываемая Соломеная... бокомъ однимъ... к дорозе изъ села Ромашковъ до Клевицы, а другимъ концомъ до стешки, которою ходетъ до Чижелевъ. На четвертомъ месцы нивки две стешки... прозываемые подъ Вишенкою. На пятомъ месцы нивка подъ плотомъ Войтеля... концомъ при дорозе до Щепановичъ тое нивки на севалъно... А семая нива лесъ зароснikъ... концами обема къ себреному лесу* ***(агульнага карыстання),*** *при осиннику себреномъ... Мой реестръ... до книгъ кгродских Ошменскихъ далъ, а другий слово въ слово списавши, далъ пану Веселковскому... Писанъ у именьцы въ селе Ромашковъ року 1589, власною рукою подписалъ".*

Тут ужываліся таксама назвы Иванцовъ логъ, въ Крыжохъ, при лесе Шумборовскомъ до лесу Лосевского, у Жвиркгждыяхъ, сеножать в Олехнишкахъ...

Мова рэестра тагачасная дзелавая, пісьмовая (не народная) з вялікім уплывам старарускай, але ў ёй шмат чыста беларускіх слоў: Ганна, Мікалай, матка, лазня, будаванне, сёмая, сцешка, житное, к дорозе, под плотом, грунт, гай і г.д.

Па словах былога старшыні Граўжышскага сельсавета А.К.Аскеркі, у іх было невялікае сяло Рамашкаўшчызна, людзі там жылі да 60-х гадоў, але выехалі.

**М.Пузіноўскі,**
**краязнаўца**

■ ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР

# МІХАЛ ВАЛОВІЧ – НАШ ЗЯМЛЯК

Споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння Міхала Валовіча (18.06.1806 – 2.08.1833). Ён паходзіць з фальварку Парэчча Слонімскага ўезду. Вядомы дзеяч вызвольнага руху першай траціны 19-га стагоддзя на тэрыторыі Беларусі. Скончыў Віленскі універсітэт. Удзельнік паўстання 1830-1831 г. Пасля паразы эміграваў у Францыю. Здолеў крытычна асэнсаваць вопыт паўстання, вызначыў недаацэнку ролі сялянства. Зблізіўся з дэмакратычнымі арганізацыямі.

У 1832 г. прыняў удзел у падрыхтоўцы экспедыцыі Юзэфа Заліўскага ў Беларусь. Яму даручылі ўзначаліць Слонімска-Навагрудскую акругу. Ён як найбольш востра настроены радыкал хацеў не аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г, а знішчэння прыгонніцтва, абуджэння нацыянальнай свядомасці сялянства.

У сакавіку 1833 годзе вярнуўся ў родныя мясціны з мэтай узняць сялян на барацьбу за свабоду. Яго атрад з 12 чалавек меў намер вызваліць вязняў Слонімскай турмы і сумесна пачаць шырокія дзеянні. Спачатку напалі на паштовую карэту ля станцыі Навіны на шашы Брэст-Слонім-Вільня.

З дапамогай мясцовых жыхароў царскія войскі выявілі атрад у лясах каля ракі Шчары і разграмілі яго. 25 мая Валовіч трапіў у палон. Следства вялося ў Гродне. Разам з ім да адказнасці былі прыцягнуты амаль 150 чалавек. Міхала прыгаварылі да пакарання смерцю. Прысуд выкананы 2 жніўня 1833 г. у Гродне каля парахавога склада за Скідальскай заставай (цяпер раён праспекта Касманаўтаў) у прысутнасці шматлікіх жыхароў горада. Месца пахавання невядома. Былі чуткі, што цела закапалі ў кар'еры.

**"КГ"**

■ КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ

# "СУЗОР'Е" У ПОШУКУ

У Раклевіцкай базавай школе Дзятлаўскага раёна ёсць дзіцячая арганізацыя "Сузор'е". Яна ажыццяўляе рэгіянальную праграму выхавання "Пазнай наваколле сваё і захавай нашчадкам". Актыўна вядуць пошукавую работу экспедыцыйныя атрады. Ужо створаны альбомы "Мікратапанімічны слоўнік нашай мясцовасці", "Наш радавод", "Подзвіг народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны". Вучні пачатковых класаў складаюць "Экалагічны сшытак".

Нядаўна раённая газета "Перамога" надрукавала вялікі матэрыял "Раклевіцкія краязнаўцы вывучаюць летапіс і тапаніміку сваёй мясцовасці". Тут распавядаецца пра гісторыю роднай вёскі. Змешчаны ўспаміны людзей сталага веку Іосіфа Юрчука і Зінаіды Цыгель. Каб сабраць патрэбныя звесткі, сябры гуртка "Гісторыкі-краязнаўцы" школы звярталіся за дапамогай у Дзятлаўскі краязнаўчы музей.

Актыўнымі краязнаўцамі праявілі сябе Павел Булай, Аксана Кійка, Марына Грыцук, Наталля Карпач, Іван Касцюшка, Аксана Мурын, Генадзь Папроцкі, Таццяна Мудрая, Віктар Мацюк, Ліда Ступчык, Андрэй Падапрыгара, Саша Пашукевіч, Уладзімір Марозік. Кіруе работай групы Аляксандр Іванавіч Васюкевіч.

**Уладзімір Кавалёў**

■ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ

# НАВАГРАДЧЫНА ЗАЙМЕЛА СВОЙ ЧАСОПІС




Накладам усяго сто асобнікаў выдадзены пробны нумар гісторыка-літаратурнага часопіса "Зямля Наваградская". У прадмове паведамляецца, што тутэйшы край мае сваю асаблівую аўру. У гэтым пераконваецца кожны, хто завітаў у гэтыя мясціны. Сярод яго знакамітых ураджэнцаў і славуты паэт Адам Міцкевіч, памяці якога прысвечаны першы нумар.

Часопіс выдатна ілюстраваны каляровымі і чорна-белымі фотаздымкамі і рэпрадукцыямі. Яны арганічна дапаўняюць тэксты. Краявідам Навагрудчыны прысвяціў свой допіс Томаш Крывіцкі. Паселішчу Туганавічы, дзе жыла каханая Адама Міцкевіча – Марыля Верашчака, прысвяціў даследаванне Анджэй Сыракомля-Булгак. Адносіны Міхала Клеафаса Агінскага да філарэтаў даследуе Таццяна Кляшчонак. Паэт Сяржук Мінскевіч змяшчае ўрывак са свайго перакладу паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды".

Даўні даследчык старажытных крыніц гісторыі Беларусі, жыхар Санкт-Пецярбурга Мікола Нікалаеў прапанаваў часопісу нарыс пра пецярбургскі перыяд жыцця Адама Міцкевіча. Дырэктар Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Вяршыцкая паведаміла пра культуру роднай зямлі часоў Міцкевіча.

Часопіс "Зямля Наваградская" выдадзены ў двух мовах – беларускай і польскай. Матэрыялы выдання падрыхтаваны навагрудскім Таварыствам філаматаў «Прамень». Часопіс мяркуецца выдаваць двойчы на год.

**Сцяпан Ярашчук**

# ВЫДАННЕ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ




Не першы год таварыства беластоцкіх журналістаў выдае "Czasopis". Нядаўна пабачыў свет № 4(123). Ён дэкларуецца выдаўцамі, як беларускае грамадска-культурнае выданне, прысвечанае праблемам сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месцу чалавека ў свеце.

Галоўным рэдактарам з'яўляецца Ежы Хмялеўскі. У рэдакцыйнае аб'яднанне ўваходзяць добра вядомыя аўтары – Вячаслаў Харужы, Хелена Казлоўская-Глагоўская, Славамір Іванюк, Сакрат Яновіч, Ежы Сульжын.

Апошні нумар часопіса друкуе сенсацыйны матэрыял В.Харужага "Пад Саветамі", які раскрывае гвалтоўныя змены савецка-польскай мяжы ў 1944-1948 г., у выніку якіх каля 2-х тысяч беларускага насельніцтва, у т. л. добра вядомае зараз паселішча Баброўнікі, апынуліся ў Польшчы.

Працягваецца публікацыя нататак нашага земляка Алеся Чобата "Зямля св. Лукі". Аўтак разглядае праблемы сучаснай Беларусі, беларускай нацыянальнай ідэі, беларуска-польскага памежжа. Цікавыя ўспаміны пісьменніка Сакрата Яновіча, хроніка, нарысы пра падзеі і асобаў беларускай дыяспары – багаты краязнаўчы матэрыял, цікавы чытачам усіх рэгіёнаў Беларусі, усяго беларускага замежжа.

"Часопіс" можна пачытаць у аддзеле краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Яўхіма Карскага.

**А.Дзіснёнак**

# БЫЛА КАЛІСЬЦІ ВАЙНА. РУСКА-ЯПОНСКАЯ...

Тысячы беларусаў прымалі ўдзел у руска-японскай вайне 1904-1905 гадоў. Сярод гэтых воінаў былі і жыхары Гродзеншчыны. Звесткі пра гэтых людзей маем надзвычай сціплыя. Ведаем, што ў асноўным хлопцы прызываліся на флот.

Пад кіраўніцтвам "Згуртавання школьных краязнаўцаў", пры падтрымцы ліцэя № 1 г. Гродна мы распачынаем праект "Руска-японская вайна і Гродзеншчына: пашана для ўсіх", прымеркаваны да стагоддзя гэтай вайны, якое прыпадае на 2004 год.

Праект прадугледжвае тры этапы — збор інфармацыі; яе апрацоўка; магчымае выданне брашуры і адкрыццё мемарыяльнай дошкі.

Збор матэрыялаў – самая цяжкая справа. Краязнаўцы могуць паспрабаваць набыць інфармацыю ў нашчадкаў былых воінаў. Удзел у вайне прымалі медыцынскія сёстры, святары. Былі асобы, якія ахвяравалі свае сродкі на карысць рускай арміі. Магчыма, у кагосьці засталіся лістоўкі таго часу, мясцовыя газеты, афіцыйныя паведамленні. Дарэчы, многія ўдзельнікі руска-японскай ваеннага сутыкнення пасля ваявалі на франтах Першай сусветнай вайны. 2004 год – год яе 90-годдзя.

Плануецца правядзенне канферэнцыі па запланаванай тэме. Свае прапановы і матэрыялы прысылайце на адрас "Краязнаўчай газеты".

**Сцяпан Стурэйка,**
**старшыня ініцыятыўнай групы па правядзенні праекта.**
г. Гродна.

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а.

Наклад 299 асобнікаў. Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук. Дызайн і вёрстка Адам Кірэяцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"